наша свабода

№56 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

8 ВЕРАСНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Аргкамітэт Маршу Свабоды падаў заяву ўладам

**У чацвер адбылося першае паседжанне аргкамітэта па правядзенні Маршу Свабоды. Старшынёй аргкамітэта быў абраны адзін з найбольш паважаных беларускіх палітыкаў – Юры Хадыка.**

На прэс-канферэнцыі, прысвечанай гэтай падзеі, было заяўлена, што Марш Свабоды павінен адбыцца ў Мінску 1 кастрычніка 2000 г. Заяву на правядзенне маршу падпісалі болей за сто лідэраў і актывістаў дэмакратычных партыяў і рухаў. Прызначана таксама месца і час збору ўдзельнікаў акцыі – Акадэмія навук, 12 гадзінаў дня. Удзельнікі мяркуюць прайсці па праспекце Скарыны да плошчы Незалежнасці, дзе павінен адбыцца мітынг. Арганізатары ацанілі колькасць удзельнікаў акцыі ў 100 тысяч чалавек. Сёння, 8 верасня, сябры аргкамітэта перададуць заяўку на правядзенне акцыі гарадскім уладам для ўзгаднення маршруту і часу.

Арганізатары акрэслілі мэты Маршу Свабоды: за справядлівыя выбары супраць выбарчага фарсу. Удзельнікам Маршу Свабоды даецца магчымасць сказаць сваё «не» фарсу і падтрымаць байкот, арганізаваны дэмакратычнымі сіламі краіны.

Маршы Свабоды, якія прайшлі восеньню 1999 і вясной 2000 года, былі самымі масавымі акцыямі пратэсту, якія праводзіла беларуская апазіцыя ў апошнія гады. ■




# На пяць хвілінаў у Нью-Йорк – і назад

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Буйнейшая падзея ў свеце міжнароднай палітыкі – «Саміт Тысячагоддзя», наладжаны ў Нью-Йорку Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў, завяршае сёння сваю працу – без Аляксандра Лукашэнкі. Беларускі кіраўнік пакінуў мерапрыемства ў дзень яго адкрыцця, амаль адразу пасля таго, як скончыў сваю прамову.**

Ад'езд Аляксандра Лукашэнкі з Нью-Йорка стаў нечаканасцю для многіх. Асноўнай версіяй, чаму беларусы так тэрмінова сталі пакаваць валізкі, стаў той факт, што А.Лукашэнку не запрасілі на афіцыйны прыём з нагоды адкрыцця «Саміта Тысячагоддзя». Па словах чыноўнікаў з ААН, якія пажадалі застацца невядомымі, імя беларускага лідэра выкраслілі з ліста запрошаных асабіста Біл Клінтан. Як гаспадар форуму, дарэчы, ён меў на тое поўнае права. Хутчэй за ўсё, раз'юшаны А.Лукашэнка вырашыў гучна бразнуць дзвярыма перад носам усёй сусветнай супольнасці і яшчэ раз даказаць свой выбуховы і непрадказальны характар. Некаторыя крыніцы нават сцвярджаюць, што А.Лукашэнку *адзінага* не запрасілі на ўрачыстасці.

Прэс-сакратар міністэрства замежных справаў Беларусі Павел Латушка, аднак, паведаміў, што падарожжа А.Лукашэнкі ў Нью-Йорк ад самага пачатку планавалася кароткатэрміновым – разлічаным на адзін дзень. Таму ніякай нечаканасці тут быць не магло. Трэба разумець, што А.Лукашэнка ад пачатку ведаў – яго не запросяць.

Міжнародны каардынатар Хартыі'97, былы намеснік міністра замежных справаў Беларусі Андрэй Саннікаў так пракаментаваў для Радыё «Рацыя» гэты факт: «На «Саміт Тысячагоддзя», які ладзіць ААН, непатрэбнае запрашэнне. Лукашэнку таксама ніхто не запрашаў. Ён як прадстаўнік краіны-ўдзельніцы і заснавальніцы ААН мае поўную магчымасць паехаць туды. Але ён не запрошаны на афіцыйныя мерапрыемствы ў сувязі з гэтым самітам. Там рыхтуюцца пэўныя прыёмы на ўзроўні прэзідэнтаў, але ён не атрымаў ніякіх запрашэнняў».

Магчыма таксама, што даверлівыя заходнікі проста не зразумелі асаблівасцяў славянскага характару. Па правілах агульнага этыкету, вельмі недыпламатычна, нявետліва і непрыгожа выказваць самому і не выслухоўваць суразмоўцу. Але менавіта так атрымалася на саміце. Аляксандр Лукашэнка прыляцеў у ЗША з Кубы ад сябры Фідэля, хуценька зачытаў сваю прамову і гэтаксама тэрмінова ад'ехаў, не пажадаўшы паслухаць, што будуць далей казаць яго калегі-кіраўнікі іншых дзяржаваў: больш за 180 прэзідэнтаў, прэм'ер-міністраў, каралёў, прынцаў і г.д. На ўчарашні дзень былі запланаваныя выступы 70 лідэраў, яшчэ 70 маюцца выступіць сёння. Выніковыя дакументы саміту засталіся без подпісу прадстаўніка ад Беларусі.

Лідэры іншых дзяржаваў проста не маглі зразумець, чаму яны мусілі выслухоўваць А.Лукашэнку, а ён іх – не пажадаў. І палічылі, што той на нешта пакрыўдзіўся. Бо іншым чынам рацыянальны розум не можа патлумачыць гэты ад'езд, больш падобны да ўцёкаў.

Пра што ж даводзіў А.Лукашэнка лідэрам краінаў свету ў адведзеныя яму пяць хвілінаў? Выступ пад урачыстай назвай «Беларусь адкрытая для сяброўства і супрацоўніцтва» традыцыйна ўтрымліваў рознага кшталту нападкі на заходнія дэмакратыі. Пасажы пра тое, што «невялікая група дзяржаваў вяршыла лёсы свету, разглядаючы астатнія нацыі і народы як бяспраўную масу», «правы чалавека і дэмакратыя ўсё часцей выкарыстоўваюцца некаторымі дзяржавамі як нагода для пакарання няўгодных краінаў і нацыяў» і пра «спробы моцных дзяржаваў «прычасаць» усіх пад адну грабёнку», зноўку даказалі, што ўсе добрыя пачуцці А.Лукашэнкі скіраваныя выключна на Усход. Хаця ніводнай канкрэтнай дзяржавы ён не называў, але было зразумела, што абразы прызначаныя збольшага для гаспадароў форума – ЗША. «Прайшоўся» беларускі лідэр і па ААН, заявіўшы, што «ААН не ў поўнай меры можа зладзіць з задачай прадухілення агрэсіі і ўзброеных канфліктаў».

Не дзіва, што пасля такой прамовы заставацца ў Нью-Йорку было А.Лукашэнку недарэчы. Не дадала яму, відаць, асаблівай прыемнасці і дэманстрацыя з некалькіх дзесяткаў прадстаўнікоў беларускай абшчыны ў ЗША, якія, па сведчанні Радыё «Свабода», на працягу двух гадзінаў на Парк-авеню і 50-й вуліцы выступалі супраць усталявання дыктатуры ў Беларусі і трымалі плакаты: «Лукашэнка дыктатар», «Далоў Лукашэнку!», «Спыніць расейскую акупацыю Беларусі!», «Няхай жыве БНР!», «Жыве Беларусь!».

Дарэчы, напярэдадні саміта мэр Нью-Йорка Рудольф Джуліяні заявіў, што ягоныя ўдзельнікі будуць ахоўвацца лепш, чым у якой-небудзь іншай кропцы свету. Аднак, як сказаў Р.Джуліяні, на яго ўласную думку, некаторыя з тых, хто прыехаў на саміт, з'яўляюцца пачварнымі і жахлівымі істотамі, і аб гэтым варта нагадваць ім кожны раз, як толькі выпадае магчымасць. ►

*Заканчэнне на стар.2*

## Паважаныя чытачы!

**Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА працягвае падпіску**

**Вы можаце падпісацца ў любы час, газета будзе прыходзіць да Вас з першага дня наступнага месяца.**

Падрабязнасці пра ўмовы падпіскі на *стар. 6*

## НАВІНЫ

■ **Кіраўніцтва руху «Талібан», што кантралюе большую частку тэрыторыі Афганістана, зноў запатрабавала даць ягоным прадстаўнікам месца ў ААН.** Зараз Афганістан тут прадстаўляюць прыхільнікі прэзідэнта гэтай краіны Бурнахуддзіна Рабані. У заяве міністэрства замежных справаў Ісламскага Эмірата Афганістан, абвешчанага талібамі, гаворыцца, што «калі ААН насамрэч жадае міру і ліквідацыі варожасці ва ўсім свеце, то яна не павінна адмаўляцца ад рэальнага стану рэчаў». Гэтая заява з'явілася пасля таго, як талібы захапілі стратэгічна важны для апазіцыйнага «Паўночнага альянса» гораду Талакан.

■ **Нью-ёркскія гарадскія ўлады, якія наогул традыцыйна не дужа прыязна ставяцца да супрацоўнікаў ААН, гэтаксама недобразычліва сустракалі і ўдзельнікаў «Саміта тысячагоддзя».** Так, мэр горада Рудольф Джуліяні публічна назваў "забойцамі" прыбылых на форум кубінскага і палестынскага лідэраў Фідэля Кастра і Ясіра Арафата. Амерыканскія журналісты з гэтай нагоды адразу ўспомнілі чыноўніку ягоныя неаднаразовыя прапановы забраць у ААН яе будынак на беразе Іст-Рывер і пературварыць яго ў жыллёвы і гасцінічны комплекс, а таксама частыя нападкі на ААН з-за нясплаты ейнымі супрацоўнікамі, якія маюць дыпламатычны імунітэт, дарожных штрафаў. Дарэчы, напярэдадні саміта нью-ёркскія ўлады выдалі незадаволеным яго правядзеннем жыхарам дазволы на звыш 90 дэманстрацыяў пратэсту.

■ **Колькасць какаіну, які забіраецца ў кантрабандыстаў, павялічылася ў свеце за апошнія пяць гадоў амаль удвая.** Пра гэта ў мексіканскім горадзе Акапулька заявіў прадстаўнік кіраўніцтва Інтэрпола *Пол Хігдан. Паводле* прыведзеных ім дадзеных, калі ў 1995 годзе было канфіскавана 150 тонаў гэтага наркотыка, то летась – ужо 350 тонаў. На Еўропу з гэтай колькасці прыпадае адпаведна 22 і 43 тоны.

■ **Па падазрэнні ў правозе допінгавых прэпаратаў мытнікі Аўстраліі затрымалі члена алімпійскай каманды Узбекістана.** Гэта трэнер узбекскай зборнай па барацьбе, у якога знайшлі, як падазраецца, два флаконы з гармонамі росту. Зараз сумнеўная вадкасць адпраўленая на хімічны лабараторныя даследаванні.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1025**

# Блеф и тщета куртизанок

*«Когда у них вся власть, - пусть перед ними*
*Согнет свои колени ваша глупость,*
*Которая дала им эту власть».*
*Шекспир «Кориолан»*

**Александр ДУБРАВИН**

Человек сам начинает называть себя политиком. В один прекрасный день он вдруг устремляется во власть, как сёмга на нерест. Побудительные мотивы у этого поступка могут быть самые разные, от святого желания спасти Родину, до банального стремления улучшить жилищные условия или избежать возможного уголовного наказания. По-видимому, нет необходимости утверждать, что первых очень мало, а вторых очень много. Ведь это закономерно: высшими общественными устремлениями, интересами страны, ощущением политики как тяжелой и упорной работы во имя прогресса всего общества живут только особо одаренные, интеллектуально развитые, порядочные и совестливые люди. Большинство же других политиков – обыкновенные, хотя, порой, и болезненно самолюбивые субъекты. И политика в их исполнении такая же заурядная, предсказуемая, эгоистичная. А зачастую она просто нечистая, даже подлая.

Но вот что интересно: руководствуясь самыми различными мотивами, все кандидаты на приобщение к власти декларируют благородные высшие общественные цели. И поэтому мы должны оценивать не их слова, а поступки. Судить о них по предыдущей биографии, по друзьям и соратникам, по тому, насколько они тверды в своих убеждениях. Соответствует ли это все заявленным декларациям?

### Могучая кучка

25 августа сего года, накануне технической конференции в Вене, которая рассматривала вопрос о присутствии наблюдателей на выборах 15 октября в .... (всегда затрудняюсь с названием этого учреждения под медицинским названием) палату представителей национального собрания... (Особенно лживо в этом контексте слово «национальное», но не будем о грустном).

Итак, 25 августа сего года три белорусских политика (Ольга Абрамова, Александр Федута и примкнувший к ним Владимир Новосяд), зачисленные когда-то и почему-то, к нашему всеобщему огорчению, в ряды демократической оппозиции, отправляют в европейские структуры свое письмо, в котором просят, вопреки решению Конгресса демократических сил, прислать наблюдателей на лукашенковские выборы. Чем же они мотивируют свою просьбу?

(Цитирую письмо! Внимание, читатель, мы вступаем в область намеренной лжи, тщательно замаскированной под правду. В ней вышеупомянутые политики существуют всю свою карьеру, и именно эту область они считают своей настоящей политикой. Вот, собственно, в чем основная причина противоречий между этой «могучей кучкой» и другими политиками, которых такая наглая и циничная ложь раздражает и возмущает. Поэтому, давайте прочитаем внимательно: ведь в политике мелочей не бывает, здесь, порой, важна каждая запятая).

**«...в белорусском обществе идея бойкота выборов не пользуется популярностью (согласно социологическим опросам, в выборах намерено участвовать свыше 70% избирателей). Полный отказ белорусских демократов от участия в избирательной кампании приведет...к обману ожиданий избирателей и деформации политического представительства в будущем парламенте».**

Ложное утверждение, внедряемое под видом общепризнанного результата проведенной мониторинговой работы. Социологические опросы, в которых ставился бы прямой вопрос о бойкоте выборов, не проводились. В тех опросах, что проводились, приблизительно 48% избирателей высказались за выборы только при условии соблюдения властями четырех условий, выдвинутых оппозицией и европейскими структурами. Кроме того, в письме многократно фигурирует термин «парламент», хотя, как известно, та структура, которая у нас занимает место парламента, так называться не имеет права. Политическое представительство в этой структуре полностью искажено и другим быть в этих условиях не может. Именно за изменение условий выборов и создание на базе этой структуры настоящего парламента и выступает оппозиция. Напомню, что капитальная уступка, жест «доброй воли», на которую Лукашенко ответил черной неблагодарностью, как раз и заключается в том, что вместо полного отрицания его палаты представителей, как антиконституционной и недемократической, оппозиция согласилась на модернизацию его уродливого творения.

**«Осмелимся напомнить, что юридической базой для непризнания итогов референдума 1996 года стал контроль за ходом голосования, зафиксировавший многочисленные нарушения действовавшего законодательства. Именно благодаря этому никто не осмеливался трактовать выводы европейских институтов, как заведомо предвзятые и бездоказательные».**

Опять неправда. Европейские институты не осуществляли контроля за ходом голосования на позорном и неконституционном референдуме 1996 года. Иначе у властей были бы большие основания требовать для себя легитимности. Между прочим, они впоследствии некоторое время очень яро упрекали европейцев в предвзятости.

**«В то же время неприезд международных наблюдателей дает определенные преимущества сторонникам радикального антидемократического курса в структурах действующей власти Беларуси».**

Сказка для наивных иностранцев. Вся нынешняя власть исповедует радикальный антидемократический курс, потому что люди с демократическими представлениями там просто не работают. И если эту власть еще что-то действительно сдерживает, так это боязнь полной международной обструкции и изоляции.

**«Отсутствие международных наблюдателей на парламентских выборах 2000 года может привести к автоматическому отказу европейских структур прислать международных наблюдателей на президентские выборы 2001 года, поскольку Закон о выборах президента, а также сроки выборов будут определяться с участием нового белорусского парламента, которому уже сегодня заведомо отказывается в легитимности».**

Опять лукавство. Нынешняя палата представителей является нелегитимной, но никто на этом основании не отказывает Беларуси в присутствии наблюдателей на выборах. Главное условие: выборы должны быть честными. Подумайте, какая малость нужна! Честные выборы! И они будут признаны во всем мире, даже если ни одного международного наблюдателя не будет на ту пору в Минске.

Короче говоря, вместо того, чтобы в полный голос потребовать у власти приличного поведения и неуклонного соблюдения всех демократических норм, «могучая кучка» выступает просителями за нынешний режим. Почему?

Информация для размышления: вся тройка выступает кандидатами в депутаты. А кому хочется быть представителями непризнанного, нелегитимного образования? К тому же есть предположение, что режим уже гарантировал им места в новой палате за проявленную лояльность. Поживем, увидим... ■

*(Продолжение следует)*




## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**–Ці пойдзеце вы на выбары 15 кастрычніка пры ўмове непрыезду міжнародных назіральнікаў і няўдзелу ў выбарах дэмакратычных партыяў?**


Уладзімір МІХЕЕЎ

– Я ведаю пра кампанію байкоту, і цалкам яе падтрымліваю. Няма ў нас умоваў для дэмакратычных выбараў абсалютна ніякіх!


Наташа, студэнтка

– Не ведаю, хутчэй за ўсё не, бо і раней не збіралася, і тым больш пасля непрыезду назіральнікаў.


Рыта, бібліятэкар

– Не, я не буду ўдзельнічаць, бо калі выбары называюцца дэмакратычнымі, то няхай яны насамрэч будуць дэмакратычнымі, а не такімі, як зараз!


Людміла, медработнік

– Не да выбараў вашых, іншым галава забітая, праблемы. Не пайду, мабыць.


Аляксандр, аспірант

– Ды не, не буду. У нашай краіне так званы парламент ніякай ролі не мае, хіба толькі марыянетачную, ствараць, так сказаць, бачнасць.


Галіна, кранаўшчык

– Я ведаю, што ад майго голасу нічога не памяняецца, але пайду ўдзельнічаць, па звычцы.


Не назваўся

– Я лічу, што ўдзел у выбарах павінен быць абавязковым, пад прымусам, каб пасля не ківалі па баках, маўляў, за нас вырашылі...

**Апытвалі**
**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**



**СУД**

# Абрамовіч пераходзіць у наступ і вяртае мільён

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Беларускі рэкардсмен па колькасці сутак, праведзеных пад адміністрацыйным арыштам за свае палітычныя перакананьні, барысаўскі сацыял-дэмакрат Аляксандр Абрамовіч пачаў судовы пераслед уладаў за свае турэмныя пакуты.

Вярхоўны суд Беларусі адмяніў ранейшыя прысуды Барысаўскага гарадскога суда, які некалькі месяцаў таму 35 дзён запар трымаў А.Абрамовіча пад арыштам. Да таго ж, «у выхаваўчых мерах» яго зьмяшчалі ў адну камеру з арыштантамі, хворымі на адкрытую форму туберкулёзу, што катэгарычна забароненае заканадаўствам.

Такім чынам Аляксандр Абрамовіч надаў у суд горада Крупкі (бо, згодна з заявай, Барысаўскаму суду ён не давярае) іск на кампенсацыю маральнай шкоды і шкоды здароўю на суму 1 мільён рублёў.

Суд Крупак, уважліва разгледзеўшы ўсе абставіны справы, прысудзіў выплаціць А.Абрамовічу грошы – праўда, толькі 200.000 рублёў. Зніжэньне сумы было патлумачанае тым, што гарадскі бюджэт Барысава і так цярпіць крах, і мільён рублёў там узяць няма дзе. Апазіцыянер не задаволіўся рашэньнем Крупскага суда і будзе абскарджваць яго ў судзе Мінскай вобласці.

Па словах самога Аляксандра Абрамовіча, гэта толькі пачатак ягоных перамогаў над рэжымам у сценах суда, бо незаконных адсідак у яго было яшчэ шмат. ■

# Станицу Суворовскую заняли армяне

## Вблизи «горячих точек» веет дыхание войны

Полина СТЕПАНЕНКО

**Имя Суворова всегда использовалось российскими имперскими правительствами (царским, сталинским, последующими) для фундаментальной пропаганды на захваченных территориях. Например, у нас в Беларуси есть 53 колхоза имени российского душителя восстания на Беларуси в 1794 году. Как живут у нас в «суворовских» колхозах, мы знаем. В Ставропольском крае есть станица Суворовская. Этот материал освещает, как живут люди там.**

После чернобыльской катастрофы сюда вывозили на лето детей из зоны. И дети отправляли домой письма о том, как тут хорошо: абрикосы растут прямо на улицах, из-под земли бьет минеральная вода, тепло, темнеет рано, и на небе появляются звёзды — необычайно крупные и яркие. Теперь станица Суворовская оказалась на обочине "горячей точки».

### Станица Суворовская

Расположена в предгорьях, в долинах трех речек — Кумы, Дарьи и Тамлык. Короче, между Пятигорском и Черкесском — в тех местах, которые обычно называют районом Кавказских Минеральных вод. Станица Суворовская была основана в начале 19 века, первоначально как сторожевой пункт, заселена была казаками. Название свое получила в честь А.В. Суворова — так решили ее жители, когда станица получала наименование. Тогда же на горе, с которой в хорошую погоду виден Эльбрус, был возведен большой Собор — гордость казаков. Собор был снесен, в то самое время как опустели большие казачьи дома в центре станицы. Эти дома поражали воображение суворовских мальчишек, родившихся в советское время: «Откуда столько много великолепных домов, в которых не живут их владельцы? Позже поняли, что это дома казаков, часть которых погибла во время гражданской войны, кто-то предусмотрительно уехал из станицы, другие были раскулачены и высланы».

### Казаки

Казаки уверены, что отличаются от русских нравом и обычаями, большей любовью к свободе. Суворовские казаки основной приметой русского человека или, точнее, «кацапа» считают курносый нос. Можно услышать — «я нормальный человек, мне ветер в нос не задувает» (у казаков нос прямой или с горбинкой). Те из жителей Суворовки («суворов»), кто еще считает себя казаками, по традиции занимаются охотой. Ездят в горы, на этом основании дружат с абазинцами — эта такая народность, которая проживает в Карачаево-Черкесии, там, где уже есть горы и лес. Если ехать туда на охоту, нужны проводники. На этой почве и дружба.

### Старик на пасеке

Худощавый, с коричневым, как сургуч, лицом, однорукий. «Деда, а не скучно бывает, ведь ты три месяца здесь в одиночестве?»

Посмотрел как-то странно, даже зверовато и ответил: «А что мне скучать?! Скучно становится, зайду на курган, повою, повою — волки в степи мне ответят». А когда спросили: «Где вы руку потеряли?» Сказал: «На гражданской войне, воевали против красных. Загнали их в балку. Я был молодой, дурной, выскакиваю на коне, шашку наголо, кричу: «Сдавайтесь, суки!» И вижу прямо в глаз мне дуло смотрит. Выстрел, пуля — в левое плечо, так и отшибло руку. Я до сих жалею, что он плохо целился, надо было ниже — в сердце. Что ж за жизнь потом стала?! Я только недавно смог вернуться в станицу». Осколок казачества. Что касается казацких традиций, то в Суворовке их осталось очень, очень мало. Казацкое население, которое основало станицу, уже составляет небольшой процент.

### Греки

Перед Второй мировой войной в станице появилось десятка полтора греческих семей, они пришли из Закавказья, объясняли, что их оттуда вытеснили местные жители — азербайджанцы. В станице их называли «греками солёными», потому что крестили греков в подсоленой воде, заменившей морскую воду.

Начиная с конца пятидесятых годов этнический состав станицы стал очень быстро меняться в процентном соотношении — бурный рост греческого населения за счет вновь прибывших. Сейчас греки активно строят церкви. Теперь фактически каждый «греческий» район имеет свои достаточно внушительные церкви. Одна из улиц в таком районе названа именем первого греческого интеллигента в Суворовке — Пилавова, который после войны преподавал математику в местной школе. Сейчас среди греков много учителей и медицинских работников, но основная масса занимается торговлей, по возможности, выезжают на заработки в Грецию и на Кипр.

### Армяне

В результате конфликтов в Закавказье очень быстро стала увеличиваться еще одна часть населения — армянская. На реке Куме возник армянский район. В этом году богатый армянин построил там поликлинику, школу — целый культурный центр.

Один армянин женился на беларуске из деревни Ерёмино, Гомельского района. Купили дом в Суворовке. У них трое детей.

Самый младший, которому два с половиной года, напоминает Маленького Будду — поражает своей самостоятельностью своего младенческого бытия и обособленностью от мира взрослых. Загорелый малыш невозмутимо живет сам по себе, спит на лавке около дома. Старшие дети ездили в Беларусь, в Ерёмино. Им там так понравилось, что готовы были остаться. Ведь там есть лес, которого нет в Суворовке, ёлки сюда завозят только на Новый год.

### Загадочные убийства

Конфликты на этнической почве были в Суворовке и ранее — из-за языковых и культурных различий. Экономическая конкуренция обостряла внутристаничные противоречия.

Два года назад в своей машине в центре станицы был убит станичный атаман.

Убийцы исчезли и до сих пор не найдены, мотивы неизвестны. Одна из версий — «чтобы казачество не подымало голову».

И еще одно преступление — годом позже. Произошло все в Забане. Есть в Суворовке такие целебные бани, они были построены в шестидесятых годах на основе буровых скважин, из которых течет горячая радоновая вода. В одну такую баню на горячем источнике, которая работает круглые сутки, приехал развлечься очень богатый (по местным масштабам) грек с юной девой. А среди ночи прибыли неизвестные на машине. Грека в голом виде вместе с девицей вытащили из бани и увезли. С тех пор ни о греке, ни о его юной деве, ни о похитителях никто ничего не знает.

### Отношение к войне в Чечне

Одни считают: "Да, правильно, их всех надо поубивать!» Другие говорят: "Толку не будет, надо договариваться. И если бы не эти кацапы, то мы бы сумели договориться». Но все единогласно не хотят посылать своих детей на эту войну.

Показывали по телевизору, как Путин посещает раненых солдат в госпитале. И вдруг один парень крикнул: «Я из Суворовки!»

Он не назвал ни имени, фамилии, главное было — «из Суворовки». Такой патриотизм. Чувствуется и внутреннее напряжение. Боятся в основном незнакомых предметов, ведь Пятигорск, где на вокзале прогремел взрыв, совсем недалеко. Принесет сын домой сверток, и если мать с отцом ничего не знают о содержимом, начинается тревога. Осторожное отношение к незнакомым людям. В один дом пришли монтёры, ремонтировать радиолинию, старуха впала в панику, что это пришли взрывать. А на доске объявлений самое распространённое: «Продается дом». ■

Рэдакцыя прапануўвае сваім падпісчыкам аформіць падпіску праз аддзяленні «Беларусбанка».

Для афармлення падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.

**Кошт падпіскі на адзін месяц 675 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на большы тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

Форма № ПД-5

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2000 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» | Сумма |
|---|---|
| | |

Пеня
Плательщик Всего
Кассир

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2000 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» | Сумма |
|---|---|
| | |

Кассир
Пеня
Плательщик Всего

# Тарас Шаўчэнка ніколі б не пагадзіўся,

## каб мінскія ўлады паставілі яму помнік на былых Старажоўскіх могілках





Помнік Тарасу Шаўчэнку ў Львове. Помнік Кабзару, падараваны ўкраінцамі Мінску, чакае вырашэння месца для ўстаноўкі

Кірыла ПАЗЬНЯК

**Як і прадбачыла НАША СВАБОДА, на гэтым тыдні экспертная рада па манументальным мастацтве пры міністэрстве культуры, прычым у поўным складзе, выступіла супраць намераў узвядзення на рагу мінскіх вуліцаў Старажоўскай і Варвашэні помніка Тарасу Шаўчэнку. Зараз застаецца чакаць, як адрэагуюць на меркаванні спецыялістаў гарадскія ўлады.**

Пакуль што развіццё падзеяў вакол украінскага падарунка Мінску паказвае, што з думкай экспертнай рады па манументальным мастацтве лічыцца не збіраюцца. Справа ў тым, што на паседжанні рады прадстаўнік сталічнага камітэта па архітэктуры і горадабудаўніцтве не проста раіўся, а даў да разгляду ўжо гатовы праект усталявання гэтага помніка. Дарэчы, калі сам помнік каштаваў каля 100.000 долараў, то выраб гранітнага п'едэстала пад яго разам з іншымі работамі па адмысловым добраўладкаванні навакольнай тэрыторыі абыдуцца сумай да 20.000 долараў. Паставіць помнік Шаўчэнку Мінгарвыканкам плануе ў лістападзе – акурат да прыезду ў снежні на мінскі саміт украінскага прэзідэнта. Карацей, сталічныя чыноўнікі ўжо нават маюць гатовы план, дзе і як яго размясціць. Таму зварот да экспертнай рады па манументальным мастацтве, прычым ўсяго за два месяцы да намеркаванага ўзвядзення помніка (хоць чуткі пра тое, што ўкраінцы рыхтуюць падарунак, з'явіліся год назад), ёсць не больш як фармальнасць.

Падарунак падарункам і Шаўчэнка – паважаны паэт, але манументальнае ўпрыгожванне сталіцы краіны -- гэта зусім не той выпадак, каб вызнаваць прынцып, што «даранаму каню ў зубы не глядзяць». Рашэнне экспертнай рады грунтуецца на некалькіх аргументах. Па-першае, досыць сумнеўнай выглядае мастацкая вартасць самой 4-метровай бронзавай постаці. Скульптары з экспертнай рады даводзяць, што помнік «слабы» і ўяўляе сабой «работу 60-ых гадоў сярэдняй рукі». Міжволі паўстае пытанне: ці нішто іншае гэта, як «на табе Божа, што мне нягожа»? Па-другое, абсалютна не слушны выбар месца ўзвядзення скульптуры – раён перакрыжавання Старажоўскай і Варвашэні, дзе раней знаходзіліся Старажоўскія могілкі. Як кажа старшыня экспертнай рады па манументальным мастацтве Іван Міська, украінцы наўрад ці самі захочуць, каб іхні кабзар стаяў на касцях і пераварваўся такім чынам у надмагілле. У якасці альтэрнатывы спецыялісты лагічна прапануюць сквер на бульвары Шаўчэнкі (да таго будзе нагода добраўпарадкаваць яго).

Адпаведныя заключэнні экспертнай рады за подпісам міністра культуры А.Сасноўскага будуць дасланыя ў Мінгарвыканкам, а таксама ва ўкраінскае пасольства, дзе пакуль што такім варыянтам не задавальняюцца, бо хочуць бачыць скульптуру паэта менавіта ў цэнтры Мінска. Абсалютна такое ж самае рашэнне экспертная рада год таму ўжо прымала – па нізкаякасным помніку Пушкіну, без усялякай прывязкі пастаўленым у раёне гатэля «Беларусь». Падобныя рэчы будуць адбывацца і надалей, пакуль гэтая камісія пры мінкульце не набудзе рэальна ўплывовага статусу і паўнамоцтваў. У прыватнасці, гэта павінна быць прадугледжанае адмысловым палажэннем аб прынцыпах архітэктурна-манументальнай забудовы, якое ўжо болей года марудна распрацоўваецца ў Савеце міністраў.

Гаварылася на паседжанні і пра неабходнасць, калі нам дораць помнікі, рабіць тое самае ў адказ. Напрыклад, за Шаўчэнку можна было б перадаць і ўсталяваць у Кіеве помнік Уладзіміру Караткевічу, дзе пэўны час пісьменнік жыў і вучыўся. ■

# «Наши руки не для скуки...»

Константин СКУРАТОВИЧ

**После окончания митинга на заводе Михельсона в Москве 30 августа 1918 года социалистка-революционерка Фанни Каплан стреляла в Ленина. Как она объяснила следователю ВЧК, дальнейшее существование В. И. противоречило ее представлениям о природе социализма.**

Акция в чем-то удалась, в чем-то провалилась. Каплан оперативно расстреляли. Исполнению казни помогал Демьян Бедный (на советском кремлевском сленге «Богатый» по причине «заласканности» членами Политбюро). Ленин многие годы котировался как «наше знамя, сила и оружие», а для некоторых соотечественников до сих пор проходит по графе «живее всех живых» и получает приличное довольствие из казны озабоченной реставрацией монархии России.

### «Для любви сердца...»

Сейчас трудно судить, кто был прав: близорукая Фанни, не попавшая в широкий лоб «матерого Человечища» (М. Горький), государственный преступник Ульянов или, как ныне принято говорить, его электорат в лице избавившихся от эксплуатации рабочих Михельсона, твердой рукой доставивших фанатку (опять же, по-современному) Савинкова на Лубянку. Но понятно одно, если бы в то время кремлевскую больничку (для партийных активистов) возглавлял не «стойкий большевик, но некудышный врач» (как о нем отзывался Ленин) Семашко, а офтальмолог Федоров, результат мог бы быть иным. И мы вместо пролетарского социализма имели бы крестьянский, а вместо Сталина – Троцкого... Крест над могилой главного кремлевского мечтателя можно было поставить и с помощью гранатомета типа РПГ-9 или автомата АК-47. Но даже мешок с гексогеном, с помощью которого можно было взорвать весь совнарком, включая и Ленина, и Троцкого, не помог бы повернуть колесо истории вспять. В стране развелось столько пламенных революционеров, и они так по-разному видели социализм, то спасти страну можно было, только собрав их всех в один мешок и сбросив его на самое глубокое дно самого глубокого ущелья.

### «У которой нет конца»

Короче, ситуация целиком вписывается в куплет незатейливой песенки комсомольской молодежи 70-х годов: конца действительно нет. То есть, на самом деле Ленин испугался почище Николая в 1905 году. Всем прибывающим с фронтов гражданской войны комиссарам он запретил щупать балерин Большого театра (это получилось — им больше нравились купчихи), грабить (это не получилось по понятным причинам) и велел «учиться торговать», что не получалось ввиду несоответствия программе «максимум» большевистской партии.

Короче, после всего этого Ленин ввел НЭП, то есть приказал (при наличии альтернативы) не грабить, а покупать. Но при сохранении командных высот в экономике за государством. Впоследствии те, кому принадлежали командные высоты, победили. Иными словами, Ленина в его отклонении от Маркса (устранение обособленности товаропроизводителей благодаря частной собственности в пользу централизованного планирования) поправили, но, поскольку он уже лежал в Мавзолее, на Лубянку не отправили. В подвалах пришлось допрашивать тех экономистов, которые (вслед за Марксом) считали, что при социализме будет действовать закон стоимости. В частности, Андрея Вознесенского, который высказался в том духе, что в СССР товары должны продаваться по их стоимости, Сталин расстрелял. Иначе что ж, колхозникам за хлеб платить звонкой монетой. А зачем трудодни выдумали? После чего написал работу по проблемам политэкономии в СССР, в которой утвердил: социалистическое государство (правительство. — К. С.) имеет полную свободу в сфере экономики. То есть любое имущество, кому бы оно ни принадлежало, может быть изъято, конфисковано, отдано на поддержку Коминтерна или на пропой колхозному председателю.



Ура! Власти выплатили народу задолженность по зарплате

Фота IREX/ProMedia

Что же изменилось с тех пор в нашей Беларуси. Вы будете смеяться, ничего абсолютно. Вот Андрей Климов поверил в перемены и первым построил первый в стране жилой дом, соответствующий европейским стандартам по уровню комфорта. И где сейчас Климов, и кто получает барыши от использования чужого имущества?

Люди из СНГ, приезжающие в Беларусь, иногда задают удивительные вопросы. Спрашивают, например: «Правда ли, что у вас один милицейский приходится на трех потенциальных нарушителей?» Отвечаешь: «Не правда!» А сам думаешь: «А может и правда?»

Единственное, пожалуй, в чем мы не сомневались, так это в вопросе насчет регулярной выплаты зарплат. «Да, — гордо заявляли, — хоть и мизерные заработные платы у нас, но платят их регулярно». О колхозниках, понятно, речь не шла: на то они и колхозники, чтобы им не платить. Рабы. За Эзопа, например, при продаже заплатили всего 3 обола, а по уму он выше любого конюха и по IQ не уступает ни одному из совхозных директоров. Наших, пожалуй, не продашь и за один обол. (Обол – самая мелкая древнегреческая медная монета. – **Ред.**)

Но вот уже несколько месяцев, как долги по зарплате растут, как снежный ком, во всех отраслях. Причем проблема обостряется настолько, что власти принимают совершенно невиданные решения. В частности, отдают приказ собственному бухгалтеру не выплачивать себе заработную плату, пока ее не получит последняя учительница в затерявшейся полесской деревушке. А та, в свою очередь, думает, почему государство ей за воспитание поколения будущих строителей рыночного социализма определило суточный рацион в 1,5 яйца и 32 грамма мяса? К тому же эти граммы можно купить не тогда, когда есть хочется, а когда выплатят зарплату. Она же не удав, который после разового приема пищи может дремать целый месяц.

Короче, зарплат не платят. Наверное, поэтому, как утверждает минстат, ее реальный уровень растет. В том смысле, что если бы ее выплатили, то можно было бы купить больше коробок спичек, чем в прошлом году. Поэтому естественно, что, узнав секрет роста нашего благосостояния, у любого гостя из СНГ глаза на лоб лезут: «А зачем вам столько спичек?» «А ... его знает!», — отвечаем мы. И при этом говорим чистую правду. Может быть, потому, что наши представления о социализме полностью совпадают с тем, что о нем думают на Маркса, 38? Тогда что ж, так нам и надо...

Правда, чтобы мы о себе ни думали, чтобы о нас ни говорили, но Бог любит Беларусь. Особенно его хлеборобов. Защищая их от гнева начальства, и одновременно побуждая последнее к проявлению чисто царской милости. Ведь чем, если не чудом, можно объяснить тот факт, что именно в день подготовки этой статьи крестьяне в один момент получили всю заработную плату, которую им не считали нужным платить полгода. ■

Літаратура НАШАЙ СВАБОДЫ

# Талмач з Ясенца

Леанід ГАЛУБОВІЧ



**Іншым разам ужо і забудзешся пра яго, а ён ціхенька прасунецца ў рэдакцыйныя дзверы – на канапу плясь і – піпку запаліць. Як начадзіць – тады баяць пачынае, каб дарэшты галовы задурыць... Кажа нібыта сур'ёзна, а ў цябе жывот гармонікам ходзіць...**

Гэта – за піпкай, а за чорнай кавай альбо чырвоным віном – раптам цверазее і пачынае гаварыць крамольныя рэчы... Праўда, у яго і несур'ёзныя рэчы на крамолу выдаюць. Вось, да прыкладу, як гэты пасаж з яго адказу на анкету ў часопісе «Крыніца» «Калі б я быў прэзідэнтам».

«Ужо ж апошняму дурню даказана, дакументальна пацверджана, антрапалагічна праверана, што палешукі – нацыя! І гаворка ў нас пра Саюз трох (Мінск–Масква–Пінск!..) ...Вось хоць бы я сам – полешук, з хутора Ясэнец на Поросьліні шчо под Пружаною! І чым кепско, скажы этэ віэтэ мніэ? Жыцімэмо разом, дружыцімэмо, як тры слаўянскіе народы, бэз усёго гэтого вашого мазурства і пашэхонства!»

Васіль Сёмуха. 64 гады. Сябра СБП з 1977 года. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я.Коласа за пераклад рамана Т.Мана «Доктар Фаўстус». Скончыў рамана-германскае аддзяленне філфака Маскоўскага універсітэта. Працаваў у рэдакцыях і выдавецтвах. За перакладчыцкую дзейнасць узнагароджаны «Залатым знакам гонару» (ГДР, 1981 г.). Пераклаў на родную мову «Фаўста» Гётэ, «Марыю Сцюарт» Ф.Шылера, зборнікі вершаў Р.М.Рыльке, паляка Ю.Тувіма, латышкі В.Бэлшавіц, і нават лірыку К.Маркса, «Парфуму» П.Зюскінда, «Курдупеля Цахеса, якога звалі Цынобер» Э.Т.Гофмана, «Аварыю» Ф.Дзюрэнмата, «Новы Запавет» і «Псалтыр»... Перакладзены «Стары Запавет», але пакуль не выдадзены з-за адсутнасці фінансавых сродкаў.

А чалавечы лёс вызначыў спадару Васілю цяжкія выпрабаванні. Немцы спалілі хутар і расстралялі яго бацькоў. Яму ж пашанціла ўратавацца, шасцігадовым падшыванцам прасядзеўшы ціхма колькі сутак пад ложкам... Гадаваўся ў цёткі. Быў здольным і галавастым, і ўжо ў 23 гады пачаў перакладаць «Фаўста». Гэта было заўважана і ацэнена літаратурнай грамадскасцю. Прынялі ў Саюз пісьменнікаў маладзёнам. А ён ад гонару і пыхі – узяў ды і напісаў ліст тагачаснаму міністру замежных справаў БССР таварышу Гурыновічу з не абы-якім запытаннем: ці можа ён, Васіль Сяргеевіч Сёмуха, спатрабаваць матэрыяльную кампенсацыю з уладаў ФРГ за гібель сваіх бязвінных бацькоў і блізкіх ды за іх знішчаную гаспадарку, каб за тыя заходне-нямецкія грошы выдаць для беларускага народа славуты твор Егана Гётэ «Фауст».

Ні таварыш Гурыновіч, ні ФРГэшныя немцы нічога «зарвавшемуся и встрявшему в международные дела СССР» Васілю не адказалі, але адказныя таварышы ў Саюзе пісьменнікаў «вывалачку зверху атрымалі» і новаспечанага «вялікага перакладчыка» са свайго Саюза праз пару тыдняў турнулі...

Стаўшы на ногі і зразумеўшы сваё месца ў свеце, Сёмуха ўсё ж праз пару гадоў быў адноўлены ў Саюзе пісьменнікаў. Сёння, успамінаючы тое, ён кажа, што «тады дурны быў – бо малады, а цяпер дурны – бо стары»...

А пераклад «Фауста», хоць і праз шмат гадоў, Сёмуха ўсё ж скончыў. Смешна сказаць, але, пераклаўшы на беларускую мову ледзь не ўсю літаратурную класіку немцаў, у Нямеччыне спадар Васіль так ніколі і не быў. Немцы запрашалі. Аднак наш бок яго прозвішча са спісу ўдзельнікаў упарта выкрэсліваў. Аднойчы немцы гэтым так абразіліся, што, у каторы раз не ўбачыўшы ў спісе афіцыйнай дэлегацыі Сёмухава прозвішча, увогуле адклікалі сваё запрашэнне для беларускага боку.

Сёмуха называе сябе (зноў жа, вядома, не без іроніі) не літаратарам, не творцам і нават не перакладчыкам, а – паразітам. Чалавекам, які паразітуе (зарабляе грошы і славу) на чужых творах.

Шкада, скажам шчыра, што такіх таленавітых паразітаў у нашай літаратуры вельмі мала. І калі з'явіцца які са сваім перакладам еўрапейскага шэдэўра «праз пасродак расейскага падрадкоўніка» – то «славу сму поем несказанную», хоць з паслом і суайчыннікам вялікага творцы той талмач на мове арыгінала і двух словаў звязаць не можа.

Знаёміць нас былы паляшук Васіль з далёкім цывілізаваным светам, а мы і не «шманаем». Бо нас «за цывілізаваным светам не вядуць», а – якраз у зваротным кірунку гоняць, як бараноў якіх...

Але ж і Васіль бо ўпарты – не хочам «Фауста» ўразумець, то ён нам Святое пісанне працягвае. Няўжо яно, які і царкве, не стане нам сваім? І як заўжды будзе справядлівы і праўдзівы Ісус, адказваючы нам «ад Мацвея» праз Васіля нашай мовай на нашую цёмнасць: «Бо заўсёды ўбогіх вы маеце пры сабе, а Мяне не заўсёды маеце». ■



РЭЦЭНЗІЯ

# Партрэт у форме часопіса

Аляксей СТАЎСКІ

**Часопіс «*Arche*» зноў парадаваў сваіх чытачоў цікавым нумарам і да таго ж не зусім звычайным. Якой толькі тэматыкі ні былі прысвечаныя папярэднія нумары «*Arche*»! Але вось нумара, цалкам прысвечанага аднаму чалавеку, – не было...**

Літаратар, пісьменнік, неаднаразовы ранейшы аўтар таго ж «*Arche*» Адам Глобус (сапраўднае імя Уладзімір Адамчык), аўтар многіх цікавых, скандальных, спрэчных твораў, некаторымі з якіх проста зачытваешся, а некаторыя не можаш дачытаць да канца.

У апошнім «*Arche*» змешчана даволі шмат разнастайных глобусаўскіх твораў. Тут і цалкам дакументальна-аўтабіяграфічная «Фатальная лічба 3», і аўтапартрэтныя эцюды «Настаўнікі». Аналаг апошніх здабыў шырокую вядомасць на старонках «Нашай Нівы» дзякуючы таму, што ў іх Глобус, не саромеючыся, піша пра вядомых людзей і свае стасункі з імі, што думае насамрэч, не прыкрываючыся штампамі. У літаратуры (як і ў жыцці?) для Глобуса няма куміраў. Прадстаўленая ў нумары і паэтычная творчасць Глобуса, у тым ліку і вядомыя сваёй арыгінальнай пабудовай японскія хоку, пасля чытання якіх шмат маіх знаёмых выказалі самыя супрацьлеглыя меркаванні.

А акрамя ўласна твораў літаратара, у часопісе змешчана дастаткова шмат меркаванняў ягоных калегаў. І меркаванні ў духу дэмакратыі – самыя разнастайныя. Скандальна вядомы мастак і публіцыст Андрэй Савіцкі ў некаторых месцах свайго крытычнага артыкула называе творы Глобуса змрочнай блытанінай, а самога Глобуса майстрам гэтай самай блытаніны. І гэта не самыя крытычныя выразы. І наадварот у Сяргея Харэўскага, які проста па-іншаму глядзіць на самую творчасць пісьменніка, заўважаючы ў ёй не толькі скандальнасць і эпатаж. Аздоблены нумар ранейшымі малюнкамі таго ж Глобуса.




Але не думайце, ёсць у нумары і рэчы, абсалютна не звязаныя з глобусаўскай тэматыкай, і таксама вельмі нават вартыя прачытання. Вылзеліць хацелася б, што ўпершыню ў часопісе друкуецца драматургічны твор. Гэта TV-п'еса фарс-дэтэктыў Максіма Клімковіча і Міраслава Адамчыка (брат Глобуса) «Прывід у Гайцюнішках». А яшчэ ў свежым «*Arche*» ёсць «Камасутра». Самая сапраўдная, але ж па-беларуску. І стаіць яна там пад цалкам адпаведнай гэтаму твору (хто яго чытаў) рубрыкай, не якой-небудзь забаўляльнай, а цалкам сур'ёзнай – «асвета».

Акрамя таго, прысутнічаюць творы толькі пачынаючых пісаць маладых творцаў Анатоля Прасаловіча (аўтабіяграфічная «Барысаўская рамантыка»), Ірыны Тоўсцік (апавяданне «Сустрэча, якой не будзе»), Сяргея Шыдлоўскага («Партовы горад Экімань»).

Традыцыйнае ж апытанне часопіса ў гэты раз спрабавала азадачваць вядомых людзей пытаннем «Ці можа Івонка Сурвіла, старшыня рады БНР стаць прэзідэнтам Беларусі?». І самае цікавае, што большасць, сярод якой шмат, здавалася б, прагматычна думаючых людзей – дапускае такую верагоднасць. У прыватнасці, Міхаіл Чыгір параўноўвае такую магчымасць з сітуацыяй у Латвіі, дзе жанчына, былая эмігрантка стала прэзідэнтам. Але ж то у Латвіі, кажа Станіслаў Шушкевіч, адмаўляючы такую верагоднасць з-за цяперашніх беларускіх рэаліяў. ■

# «Патрабуй для сябе абавязкі»

## Карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ ўдалося ўзяць інтэрв'ю ў кіраўніка беларускай спартова-патрыятычнай арганізацыі «Край». Гэты чалавек сказаў, што не мае права назваць сваё імя



***— Сёння свята – угодкі Аршанскай бітвы. Што для вас значыць дата 8 верасня?***

— Сам факт святкавання Дня беларускай вайсковай славы разбівае міф аб памяркоўным, рахманым беларускім народзе, створаны за апошнія 200 гадоў з дапамогай нашых «братоў» расійцаў. Нашы продкі выйшлі на тую бітву і, нягледзячы на амаль утрая большыя сілы праціўніка, перамаглі. Аршанская бітва ўвайшла ў сусветныя падручнікі па вайсковым майстэрстве. Наша штогадовая прысутнасць на Крапівенскім полі сярод удзельнікаў свята паказала, што адраджаецца самае галоўнае — пераемнасць пакаленняў, пераемнасць традыцыяў, учынку, паводзінаў, духу.

***— Распавядзіце, калі ласка, трохі пра вашу арганізацыю: як яна была створана, калі, чым займаецца?***

— «Край» створаны ў кастрычніку 1998 года. Запачаткавала яго група моладзі, якая расчаравалася ва ўсіх існуючых на Беларусі палітычных партыях і рухах. Арганізацыя пачала з асноўнага (на жаль, шмат часу ўжо было страчана) – з выхавання здаровай беларускай моладзі, здаровай не толькі фізічна, але найперш духоўна. Бо нас напаткаў духоўны Чарнобыль. Падчас правядзення летнікаў у табары вядзецца здаровы лад жыцця (нават ніякага палення, не кажучы ўжо пра іншыя дрэнныя звычкі). Вы ніколі не пачуеце, каб нехта з нашых людзей лаяўся брыдкімі словамі. Мы бачым, як мяняюцца людзі. Яны пачынаюць разумець, навошта нарадзіліся на гэтай зямлі. «Край» займаецца і асветніцкай дзейнасцю: мы выпусцілі шмат брашур, прыкладам, «Чаму беларусы павінны быць нацыяналістамі», «Вінцэнт Гадлеўскі», «Беларускім героям – народную памяць», «Абэцэда беларускага нацыяналізму», «Нацыяналізм у свеце», «Беларуская партызанка». Зараз рыхтуецца шэраг матэрыялаў пра нашых нацыянальных герояў, імёны якіх доўгія гады замоўчваліся. І наогул, распрацоўваецца ідэалогія, якую пачыналі Каліноўскі, Ластоўскі, Гадлеўскі. Мы робім тое, што не паспелі завершыць яны. Беларусам трэба грунт, на якім будзе трывала стаяць нацыя. Сённяшняе становішча паказвае, што людзі без ідэі нічога не могуць зрабіць, нацыянальная ідэя – адзіная, якая здольная згуртаваць людзей і весці іх наперад. Грошы нічога не вырашаюць. За грошы тут ніхто не пераможа, перамогуць толькі змагаючыся за ідэю.

***— Вашыя добрыя справы час ад часу асвятляла незалежная прэса, але чамусьці амаль заўжды – без згадкі пра «аўтараў» справаў. Чаму вы так рэдка выходзіце на журналістаў ад імя арганізацыі?***

— Найперш, у нас прынцып: няхай за нас гавораць нашыя справы. Па-другое, у сучасных умовах залішняя інфармаванасць пра нашу арганізацыю можа пайсці на шкоду агульнай справе. Таму што краіна фактычна зараз знаходзіцца пад акупацыяй, і мы дзейнічаем, зыходзячы з гэтых умоваў. Мы не жадаем палягчаць працу акупацыйным спецслужбам. Мы ведаем, што пра нас кажуць людзі. Часам сапраўдныя міфы ствараюцца. Тое самае і сярод нашай міліцыі: яна ставіцца да нас досыць сур'ёзна, кажа, што апантаныя з'явіліся, што раней такога не было. І кажа больш-менш з павагай...

***— Як на ваш погляд, сярод беларусаў у пагонах — міліцыянтаў, вайскоўцаў і іншых – ёсць людзі, якія маглі б годна падтрымаць беларускую вайсковую славу?***

— Безумоўна, ва ўсіх сферах нашага грамадства ёсць беларускія патрыёты, якія зараз вымушаныя хаваць свой патрыятызм. Таму што ўсе памятаюць гісторыю з БЗВ, калі з войсканазвальнялі ўсіх свядомых вайскоўцаў. БЗВ пайшло з адчыненым забралам, і ўсіх адразу «знішчылі». Фактычна наша беларускае войска – не нацыянальнае войска, у ім на кіруючых пасадах не засталося беларусаў. Іх здымаюць нават на ўзроўні брыгад, ставяць замест іх у асноўным этнічных расійцаў. Што казаць ужо пра мову зносінаў, пра вайсковыя званні? Гэта ўсё не беларускае ні па сутнасці, ні па духу.

***— Калі хуткія выбары ў «палату» свет прызнае легітымнымі, то, мажліва, неўзабаве нашы хлопцы атрымаюць шанец служыць у «гарачых кропках» побач з расійцамі. Можам мы гэтак прымножыць нашу вайсковую славу?***

— Беларусы заўсёды прымнажалі чыюсьці вайсковую славу. Дастаткова прыйсці на могілкі і паглядзець, колькі там помнікаў стаіць хлопцам, якіх прывезлі з Афгана. А ёсць Ангола, Егіпет... Калі ўдавацца ў падрабязнасці, зараз – Чачэнія. Вунь з «Курска» два землякі – таксама прымнажалі чыюсьці славу! Можа, досыць? Свая зямля ёсць! Кожны беларус у пагонах мае права выбару і тры шляхі: проста адседзецца ў кустах падчас разгону пікета. Можна ціха сабатаваць загады рэжыму і ў душы быць супраць таго, што творыцца ў краіне. І можна апантана служыць рэжыму. Такія таксама ёсць. Дык вось: я хачу гэткім апантаным служкам нагадаць: палякі судзяць вінаватых у расстрэлах дэманстрацыяў у Гданьску і Гдыні, хоць яны былі 20 гадоў таму. Латышскі АМАП увесь абвешчаны ў вышук, і Інтэрпол іх шукае і знаходзіць у розных краінах свету, нават у той жа Расіі, дзе яны хаваюцца. Судзілі і літоўскі АМАП. Розныя «адданыя» і «шчыруючыя» няхай думаюць, якія загады выконваюць і якія загады аддаюць.

Вядома, што сілавыя структуры вельмі тонка адчуваюць кан'юнктуру палітычнага рынку, адчуваюць, на які бок схіляюцца вагі. Гэта засведчылі падзеі 1996 і 1999 гадоў. Бачачы, што становішча ўлады хісткае, яны робяць пэўныя высновы. Мы спадзяемся, што лепшыя людзі, якія сёння знаходзяцца ў сілавых структурах, зробяць правільны выбар.

***— Як людзі патрапляюць у «Край»? Ці існуе рытуал уступлення, як гэта часам рамантычна падае мастацкая літаратура?***

— Для новых сябраў арганізацыі існуе выпрабавальны тэрмін. Новы чалавек павінен здаць пэўныя іспыты і прайсці шэраг выпрабаванняў. Сапраўды, існуе рытуал прыняцця ў арганізацыю новых сябраў, але яго сутнасць разгалошванню не падлягае. Існуе некалькі ступеняў сяброўства ў нашай арганізацыі. Мы імкнемся падбіраць людзей, разумеючы, што любы ўчынак нашага сябры стварае імідж усёй арганізацыі. Таму абіраем лепшых. Асноўны крытэрый адбору — здольнасць чалавека працаваць дзеля Беларусі. Наш запавет: «Патрабуй для сябе не правы, а абавязкі». У сённяшніх варунках прасцей быць матэрыялістам – уступіць у арганізацыю, дзе плацяць грошы, возяць за мяжу, ці проста нікуды не ісці, а піць сабе піва і нічога не патрабаваць ні ад сябе, ні ад іншых. А людзі, якія хочуць дабіцца волі для сваёй Бацькаўшчыны і сябе, ідуць і працуюць, не чакаючы манны з неба. Мы адразу кажам навічкам, што нельга быць патрыётам з 9 гадзінаў раніцы да 6 вечара, з двума выхаднымі і месяцам адпачынку. Гэта праца – круглыя суткі, круглы год. Як казаў герой «Адважнага сэрца»: «Вы можаце пайсці дахаты, можаце памерці старымі ў сваіх ложках, але калі будзеце паміраць, праклянеце сябе, бо ў вас быў шанец нешта змяніць». Бог даў кожнаму народу сваю мову і сваю зямлю — мы, як людзі веруючыя, выконваем Божую Волю.

***— Наколькі вялікая ваша арганізацыя?***

— Аддзелы «Краю» дзейнічаюць па ўсёй Беларусі. Шмат людзей звяртаюцца да нас, таму што мы даем ім надзею на перамогу, яны бачаць нас у рэальнай дзейнасці. Прыходзяць у тым ліку і былыя сябры дэмакратычных партыяў, якія расчараваліся. Дзесяць гадоў змагання, за якія мы, незалежная дзяржава, згубілі ўсё, што толькі магчыма: сцяг, мову, хутка згубім і назву. У нас бачаць рэальную сілу, якая можа выратаваць Бацькаўшчыну.

***— Мне здаецца, любыя закрытыя арганізацыі пужаюць частку людзей. Скажам, як нацыяналістычны «Край» ставіцца да людзей небеларускага паходжання ўвогуле і ці прымаеце вы іх у сваю арганізацыю?***

— Мы ставімся вельмі талерантна да ўсіх, хто не замінае. Ёсць такія этнічныя беларусы, што горш за чужынцаў. Што да сяброў «Краю», то гэта людзі розных нацыянальнасцяў. Мы ўсім даем магчымасць самавыказацца ў змаганні за Бацькаўшчыну. Нядаўна да нас прыйшоў нават курд – малады хлопец, які вывучае беларускую мову і хоча дапамагаць беларускім патрыётам. У яго ёсць беларускае самаадчуванне, таму што курдскі народ таксама не мае сваёй дзяржавы, з'яўляецца выгнаннікам на сваёй зямлі. Вось прыклад тым беларусам, якія цураюцца сваёй мовы!

***— Чаму ў вас у якасці сімволікі – незвычайны крыж, а на бел-чырвона-белым сцягу – чорныя палосы?***

— Крыж вельмі старажытны, нашыя продкі ваявалі пад ім на Грунвальдскім полі. Веруючыя людзі ведаюць яго як Крыж Святой Тройцы. Чорныя палосы на сцягу азначаюць найперш смутак, што мы не маем па-сапраўднаму сваёй дзяржавы. Па-другое, гэта гістарычны сцяг: ён выкарыстоўваўся ўрадам БНР у выгнанні, а дзве чорныя стужкі сімвалізавалі акупацыю, пад якой знаходзіцца краіна. Калі Беларусь вызваліцца – чорныя стужкі прыбяруцца. ■

**Гутарыла Таццяна СНІТКО**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Ізноў «Вольныя танцы»

**Аляксей СТАЎСКІ**

Беларуская музычная альтэрнатыва зноў рыхтуе падарунак аматарам беларускага року. Плануецца, што ў верасні-кастрычніку па краіне пройдзе вялікі тур рок-гуртоў па беларускіх гарадах. І ўжо дакладна вядома, што 29 верасня ў «Парк-клубе Мінск», што ў парку Чалюскінцаў, з 17 да 22 гадзінаў пройдзе другая частка прэзентацыі кампакт-дыска і касеты «Вольныя танцы. Новая альтэрнатыва». З гэтай нагоды мы пагутарылі з старшынём маладзёжнай ініцыятывы Беларуская Музычная Альтэрнатыва Віталем Супрановічам.

***— Віталь, дык з чаго нарадзілася ідэя праводзіць другую частку прэзентацыі? Здаецца ж, пасля першай, вельмі паспяховай, такой задумы не было?***

— Ідэя зарадзілася ў саміх гуртоў, а БМА яе проста падтрымала. Да таго ж у першай частцы выступалі далёка не ўсе гурты-ўдзельнікі праекта «Вольныя танцы. Новая альтэрнатыва», а толькі найбольш вядомыя. Каб ніхто не быў пакрыўджаны, ды і проста нагадаць у пачатку навучальнага года, што БМА працягвае існаваць, і зладжаная гэтая прэзентацыя. І менавіта з гэтага канцэрта пачнецца тур «Вольныя танцы» па Беларусі.

***— Але ж, як бачна са спісу, не ўсе сярод тых, хто будзе выступаць у «Парк-клубе Мінск», удзельнікі праекта «Вольныя танцы»...***

— Так. Проста з'явіліся некалькі гуртоў, якія нам вельмі спадабаліся, і мы вырашылі даць і ім магчымасць выступіць. Гэта гурты «Акруга вольнага мастацтва» з Магілёва, новы праект Лявона Вольскага «Z» і іншыя.

***— Ці здолеюць звычайныя студэнты трапіць на прэзентацыю? Кошты на квіткі не кусаюцца?***

— Квіткі будуць вельмі танныя. 1.500 рублёў проста ўваход і 2.500 месца за столікам. Да таго ж будуць дзейнічаць зніжкі (скідкі) тым, хто набываў раней прэзентуемы кампакт-дыск. А хто купіць квіток на канцэрт, будзе мець зніжку на начную дыскатэку ў клубе. ■



ФОЛЬК-КУЛЬТУРА

# «Ліцьвіны» займелі дыск

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

З гадзіцеся, вельмі няшмат беларускіх гуртоў ды сольных выканаўцаў могуць пахваліцца тым, што маюць запіс уласнага альбома на кампакт-дыску. Пералічыць можна па пальцах. У лепшым выпадку ў наяўнасці адна кампазіцыя на дыску-зборцы кшталту «Вольных танцаў» альбо састарэлая ўжо магніт-касета.

І вось нечаканая і вельмі прыемная навіна для аматараў беларускай фольк-музыкі. 27 верасня ў 19 гадзінаў у будынку мінскага Тэатра юнага гледача пройдзе прэзентацыя ўласнага кампакт-дыска гурта «Ліцьвіны» «Ой, у лузе-лузе...»

Аб змесце альбома распавядае кіраўнік гурта Уладзімір Бербераў.

— Самі па сабе творы на кампакт-дыску далёка не новыя і ўжо выдаваліся ў выглядзе магніткасеты год таму. На альбоме прадстаўленыя 16 песень, якія накіраваныя для самай шырокай публікі, але перш за ўсё для аматараў фольк-музыкі. Альбом добры тым, што яго можна назваць вельмі роўным. У ім няма песень, якія рэзка б выпадалі ў добры альбо дрэнны бок, але разам з тым некаторыя з іх можна назваць хітамі. У першую чаргу гэта «Ой, у лузе-лузе...», ад назвы якой пайшла і назва альбома, «Перапёлка», «Акуліна». Існуе, праўда, праблема раскруткі песень на радыёстанцыях па прычыне працягласці іх гучання. Тая ж «Ой, у лузе-лузе...» гучыць на працягу васьмі хвілінаў, а на якой FM-станцыі дадуць столькі часу для адной кампазіцыі. Ні на якой, якім бы хітом яна ні была.

Застаецца дадаць, што фінансавала выданне кампакт-дыска накладам у тысячу асобнікаў Беларуская Музычная Альтэрнатыва. І «Ліцьвінам» тым больш ёсць чым ганарыцца, улічваючы, колькі прэтэндэнтаў сярод беларускіх гуртоў жадалі б выдаць уласны кампакт. І тым не менш выбар паў менавіта на «Ліцьвінаў». ■

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 666 Нумар падпісаны ў друк 07/09/2000 (18.00) Наклад – 9.150